№ 4 [19] КРАСАВІК 1949 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ




Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 40 фр.

Адрэс рэдакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 350 фр.

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

Калі перанесьціся думкаю на бацькаўшчыну ў перадвялікодны час, дык не аднаму кінецца ў вочы, што там да сустрэчы гэтага вялікага сьвята рыхтаваліся ня толькі людзі, але бадай-што і сама прырода, заклікаючы з далёкіх краінаў тысячы крылатых музыкаў, каб тыя, чудовымі веснавымі мэлёдыямі славілі свайго Створцу. Зямля, прачнуўшыся ад зімовага сну, гожа ўбіраецца ў новую вопратку і прыкрашваецца чудовымі веснавымі кветкамі, быццам так-жа рыхтуецца да нечага нязвычайнага.

З волі Божае ў гэты радасны час сьвятая Царква сьвяткуе найбольшае сьвята — Ўваскрасеньне Хрыста — Вялікдзень.




Гэта запраўды Вялікі Дзень. Калі вонкава Бог яго азначае асаблівым спосабам — веснавым аднаўленьнем прыроды, — дык тымболып унутрана надзяляе яго навычарпальным зьместам. Калі пад хмарамі жаваранак трыліць свае першыя веснавыя песьні — у сьвятынях з мільёнаў грудзей вернікаў лунае ў неба песьня «Хрыстос уваскрос із мёртвых...»

Вялікі гэты дзень праяўленьнем велічы і ўсемагутнасьці Божае. Уваскрасеньне Хрыста ёсьць найлепшым доказам, што ніякія перашкоды не стаяць Богу ўпапярок дарогі для зьдзейсьненьня намечаных плянаў. Нават людзкую злобу і вераломства Бог выкарыстоўвае для ажыцьцяўленьня сваіх плянаў.

Бог дапусьціў, што з Хрыстом сталася ўсё найгоршае, што магло стацца: адзін з Ягоных вучняў стаецца прадажным здраднікам, іншыя ў сполаху разьбягаюцца, а нават і выракаюцца; грамада, якая пару дзён таму крычала «осанна» на Яго чэсьць, цяпер крычыць: «распні»; жыдоўскія старшыні асьмейваюць і аплёўваюць Яго; Пілат умывае рукі і аддае на ўкрыжаваньне; жаўнеры

ганьбяць, бічуюць і ўканцы расьпінаюць на крыжы між двух злачынцаў; па сьмерці яшчэ прабіваюць глыбока бок кап'ём і потым няжывое цела кладуць у каменны гроб. — Здавалася-б, што ворагі Хрыста маглі трыюмфаваць пасьля гэтага, але не да трыюмфу ім было, калі падчас сьмерці калацілася зямля, разьдзерлася заслона ў сьвятыні і з магілаў паўсталі некаторыя памёршыя і паказаліся многім. Тады прыпомнілі старшыны, што Хрыстос задоўга перад сьмерцю прадсказаў сваё ўваскрасеньне; перад іхнымі вачыма ня зьнікала сцэна суду, калі архірэй урачыста зьвяртаўся да Хрыста: «Заклінаю Цябе Богам жывым, скажы нам, ці Ты Хрыстос Сын Божы?», і спакойны, упэўнены адказ Хрыста: «Ты сказаў». Іх грызе непакой, заядае трывога: а што, як Ён запраўды Сын Божы і запраўды ўваскросьне? Жыдоўскія старэйшыны замест таго, каб упакарыцца перад Богам, шукаюць спосабу, каб змагацца з Ім. Яны бягуць да Пілата і выяўляюць перад ім сваю трывогу, што Хрыстос прадсказаў сваё ўваскрасеньне на трэці дзень і просяць рымскіх жаўнераў на вартаўнікоў да Хрыстовага гробу. На дадатак яшчэ пячатаюць гроб. Сталася нячуванае — цела Богачалавека было ў запячатаным гробе пад вартаю азброеных жаўнераў. Здавалася, што Бога перамаглі і пахавалі. Бог дапускае і гэта. Але адначасна гэтым былі зьнішчаны для ўсіх недаверкаў усіх часоў усякія выкруты аб няпраўдзівасьці сьмерці Хрыста.

З вялікаю трывогаю чакалі старшыны трэцяга дня. І вось у нядзелю чуць на сьвет пераляканыя рымскія жаўнеры перадалі ім «неймаверную» вестку: Хрыстос Уваскрос! Сёньня мы на гэткае прывітаньне адказваем: Запраўды ўваскрос! але старшыны на гэткае прывітаньне разгубіліся. Што рабіць? пыталі сябе. Можа цяпер упакарыцца перад Богам? Але людзкая гордасьць ізноў ім дыктуе: Не! Далей пайшлі подкупы, хлусьня, быццам цела Хрыста ўкралі Ягоныя вучні. Але гэтаю хлусьнёй зноў-жа яны далі доказ праўдзівасьці ўваскрасеньня. Вучні Хрыста ў страху перад жыдамі доўгі час нават на вуліцы баяліся паказвацца, і «дзеля страха іудэйскага», як кажа сьвятое Пісаньне, заўсёды сядзелі ў зачыненым доме, а каму больш за іх залежала доля цела Хрыста? Ды чаму старшыны не пастараліся знайсьці тых злачынцаў, якія адважыліся выкрасьці цела Хрыста с-пад старожы жаўнераў? Яны нават і ня прабуюць шукаць іх. Чаму ў разгубленасьці пакінулі гроб бяз ніякае апекі?

Сёньня ўсе злонамераныя ўчынкі жыдоўскіх старшыняў служаць умацаваньнем нашае веры ў ўваскрасеньне Хрыста. Непатрэбна быць аж ап. Тамашом і жадаць улажыць свае рукі ў раны Хрыста, каб паверыць у праўдзівасьць уваскрасеньня.

Сваею сьмерцю Хрыстос зрушыў каменныя скалы, сьцьміў сонца; сваім уваскрасеньнем узьняў і загартаваў сэрцы палахлівых апосталаў, асьвяціў розум жаўнерам-паганам, але ня зрушыў закамянелых сэрцаў жыдоўскіх старшынаў, бо вольнае волі людзей Бог не парушае.

Запраўды чудовыя Божыя пляны. Той Бог, Які навучыў ластаўку з гразі рабіць прыгожае гняздо, Які на багнах росьціць прыгожыя лілеі, змог людзкую подласьць выкарыстаць для справы збаўленьня людзтва з палону першароднага граху.

І стаўся дзень уваскрасеньня Хрыста нявычарпальнай крыніцай надзеі і непахіснае веры ў перамогу дабра над злом, праўды над крыўдай, любові над злобай, жыцьця над сьмерцю.

Сёньня ў гэты сьвяты і Вялікі Дзень кожны можа цешыцца тою перамогаю, можа ўздзельнічаць думкаю ў тым будучым вечным шчасьці, калі споўняцца найшчырэйшыя жаданьні людзкое душы — нагароды за ўсе цярпеньні, задосыцьучыненьне за ўсе крыўды, асягненьне бястурботнага шчасьця.

Ад таго часу, калі Хрыстос уваскрос, мы сьведамы таго, што кожны хто нясе крыж, над кім пячатаюць гроб і ставяць абаронную старожу — уваскросьне.

Ад асабістае радасьці думка пераносіцца да нашае шматпакутнае бацькаўшчыны. Ёй так-жа «Крыж уеўся ў плечы, кайданы у рукі». Магілу ёй рыхтавалі на роднай зямлі і пячаталі яе то рознымі пячаткамі «северозападнага края», аж пакуль самым крах ня прышоў, то «крэсамі ўсходнімі», аж пакуль самі не дайшлі да «крэсу», то крывавымі зоркамі. На варце пры магіле ставілі і ставяць нязьлічаныя штыкі. Але і для яе прыйдзе вялікі дзень уваскрасеньня да вольнага жыцьця, толькі каб яе дзеці ня выходзілі з сьцежкі Хрыстовае, не пакідалі веры Божае.

Магчыма недалёкі той дзень, калі будзем сьвяткаваць падвойны Вялікдзень, а сёньня ўсьведаміўшы сабе, што калісь прыйдзе канец усім нашым цярпеньням з радасьцю сьвяткуйма вялікую перамогу, бо Хрыстос Уваскрос!

# Хто пераможа?

Чалавеку для ягонага існаваньня, а ў некаторай ступені і для ягонага шчасьця, трэба, каб меў што есьці, у што адзецца, каб меў страху над галавою. Так! гэта ўсё неабходныя ўмовы для жыцьця, але іх здабывае чалавек дзякуючы ўроджанаму інстынкту захаваньня свайго жыцьця. Не адкідаючы патрэбы матэрыяльнага дабра, трэба аднак зьвярнуць увагу на шмат большую яшчэ патрэбу маральнага дабра, бо-ж ад яго перадусім залежыць нашае збаўленьне, а таксама



**УСІМ ЧЫТАЧОМ З НАГОДЫ ВЯЛІКОДНЫХ СЬВЯТ РЭДАКЦЫЯ «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» ШЛЕ РАДАСНАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ:**
**ХРЫСТОС УВАСКРОС!**

ў вялікай ступені і наш матэрыяльны дабрабыт і шчасьце ўсяго чалавецтва.

Вынікам маральнай вартасьці чалавека зьяўляецца яго дзейная любоў бліжняга.

На аснове прыказаньня любові бліжняга мы павінны адны другіх падтрымліваць, суцяшаць і спамагаць. Гэтая ўзаемная помач можа быць і матэрыяльная і маральная; яна можа праяўляцца ўсяляк. Чалавеку часам бываюць вельмі прыдатныя рады другіх. Часта бывае, што ў нейкай справе ўвагі аднаго бываюць вельмі адпаведныя, а рады вельмі вартасныя. У іншай, зноў, справе як ня трэба лепш прыдаюцца спасьцярогі другога.

Гэтае ўзаемнае падтрыманьне бывае патрэбным яшчэ і дзеля таго,што чалавек з свае натуры мае шмат супярэчнасьцяў: адзін раз ён добры, другі раз благі; раз разумны, другі раз дурны; раз даволі памысловы, другі раз зусім бязрадны. У некаторых людзей пераважаюць дадатныя вартасьці, у іншых наадварот. Часам у таго самага чалавека тая ці іншая вартасьць пэрыядычна бярэ верх над другою на большы ці меншы працяг часу.

Ведама так-жа, што кожны чалавек, хоча ён гэтага, ці зусім ня хоча, але мусіць цярпець, мусіць несьці свой жыцьцёвы крыж; кожны мусіць змагацца з шматлікімі цяжкасьцямі, якія заўсёды спатыкаюцца на жыцьцёвым шляху. А да таго яшчэ благія людзі і такія-ж сыстэмы ўлады б'юць і калечаць цэлыя грамадзтвы і народы.

Гісторыя чалавецтва, гэта яго крыжовая дарога. І наш шматпакутны беларускі народ нясе таксама свой крыж, як нясе яго кожны з нас у асобнасьці.

На гэтай крыжовай дарозе нашага жыцьця мусім памагаць адны другім, як калісьці Сымон Керынэйскі ў Ерузаліме памагаў Хрысту. Памагайма адны другім, як людзі, як хрысьціяне; ведаючы што ў асобе нашага бліжняга згінаецца і падае пад цяжарам крыжа сам Хрыстос, наш Збаўца.

Калі ня маем ніякае магчымасьці спамагаць, дык прынамся не затручвайма адны другім гэтага праміначага жыцьця. Ня прычыняйма адны другім прыкрасьцяў, а тымбольш крыўды! Сьцеражыся, каб праз цябе ніхто ня плакаў, бо пасьля і сам будзеш моцна каяцца! Але за прыкладам сьв. Вэронікі пастарайся асушыць сьлёзы іншага, зьлітавацца над цярпеньнямі другога.

Суцяшайма адны другіх. Праўда і Дабро пераможа, бо Праўда і Дабро па боку Бога. Міма таго ўсяго, што цяпер дзеецца, міма таго, што бязбожнасьць і злая воля людзей робіць вялікія спусташэньні ў людзкіх душах — апошні трыумф належыць да Бога і багаслаўлёны тыя, што Яго трымаюцца і стараюцца жыць згодна з Ягоным правам і прыказаньнямі, бо й яны пераможуць усіх сваіх ворагаў, з каторых найгоршымі ў справе нашага збаўленьня ёсьць нашы ўласныя благія нахілы. Людзі верныя Божым прыказаньням пераможуць усе цяжкасьці, і як Хрыстос праз цярпеньні Крыжовае Дарогі і Кальварыю асягнуць хвалу ўваскрасеньня.

Бог пераможа, а з Ім і пры Яго помачы, пераможуць тыя, што дбаюць пра свае маральныя вартасьці пераможуць тыя, якія мужна нясуць свой крыж ды яшчэ памагаюць другім і да канца трываюць пад сьцягам Хрыста Валадара.

**Д. Анісько.**

# Сьв. Еўфрасіня ў бацькаўскім доме

Еўфрасіня гэта манашае імя Прадславы дочкі Юрыя Усяславіча.Аб бацькох Прадславы ведама ня шмат. Бацька яе, Юрый, быў малодшым сынам Усяслава II Брачыславіча. Штопраўда летапісы не ўспамінаюць між сынамі Усяслава II такога імені (Юрыя), але гэта было хрэснае імя або Сьвятаслава, або Расьціслава Усяславічаў. Да сёньня няма згоды між дасьледнікамі, каторы з іх мог мець імя Юрыя, бо доля іх амаль падобная, а вестак аб жыцьці і дзейнасьці дайшло замала, каб можна было вырашыць гэтае пытаньне. Маці Прадславы паходзіла з роду візантыйскіх імпэратараў Комнэнаў. Магчыма нават, што была роднаю сястрою імпэратара Мануіла (1143-1180). Гэтае спародненьне Прадслава потым ня раз змагла выкарыстаць для свае рэлігійнае дзейнасьці.

Па бацьку ў жылах Прадславы цякла кроў Рогвалада, Рагнеды, Ізяслава, Брачыслава і Усяслава Вялікага (Чарадзея). Характар яе дзіўна прыпамінае энэргічны і дзейны характар яе дзеда Усяслава.

На сьвет прыйшла Прадслава праўдападобна некалькі гадоў пасьля сьмерці свайго дзеда. Дакладную дату нараджэньня ўстанавіць нельга, але з таго факту, што яна дванаццацігадоваю ўступіла ў манастыр, дзе ігуменьню была яе цётка, удава па Рамане Усяславічу, які памёр у 1116 г., дату нараджэньня трэба прыняць не раней 1104 г. і магчыма не пазьней 1106 г., бо ўжо перад 1128 г. Прадслава сталася ігуменьню нова-заснаванага манастыра ў Сяльцы.

У Прадславы былі яшчэ браты: Вячко (маг-

авалодвае чалавекам і праменюе навонках. У гэткіх людзей увесь іхні кругазор так запоўнены жаданьнем распусты, што ён уплывае на спосаб думаньня і чуцьця. У найбольш нявінных рэчах, яны бачаць штосьці сьлізкае, бруднае, маючае плоцьныя дачыненьні. Пры гэтым адзін стараецца перавысіць другога, а іхнюю гэніяльнасьць і дасканаласьць у гэтай галіне перавышае хіба пустэча і няведа ў кожнай іншай галіне... Магчыма, што больш шляхотным адзінкам гэты малюнак пакажацца перасоленым, бо звычайна больш далікатныя і лепшыя адзінкі ў падобных выпадках найчасьцей ідуць сьледам за страусам, яны адварочваюць з гідзьдзю вочы ад гэткага балотца і абмінаюць яго здалёк».

Наўмысьля мы паклікаемся на вывады вучонага, які ўважаецца добрым знаўцам гэтых праблемаў, да таго ён ня будучы вызнаўцам хрысьціянскага сьветапагляду, ня можа быць падазроны ў якойколечы аднабокасьці.

З павыжшага ясна, калі малады юнак ня будзе асьцерагацца, але дасьць волю сваім хаценьням, а вонкавым спакусам так-жа адчыніць насьцеж дзьверы свае ўражлівае душы, дык плоцьны гон будзе апаноўваць яго больш і больш. Узрастаючы, ён станецца штораз больш бурлівым і непагамаваным і ўканцы, як кожная іншая палкасьць, можа спрычыніць папросту неаблічальныя шкоды. Бо плоцьны гон сьляпы, ён імкнецца выключна да здаваленьня свайго хаценьня і не бярэ пад увагу ані дабра іншае асобы, ані свайго ўласнага. Ці тое, чаго ён хоча, ёсьць агідным, пагубным, брыдкім, ці не — яму гэта зусім абыякава. Ён не аглядаецца на нішто; хоча сябе насыціць, а што з гэтага можа быць, яму ня важна. Што чалавек падарве фізычныя і духовныя сілы, або нават зусім змарнее, што патопча ўласнае шчасьце, або другіх сапхне ў пропасьць бяды і роспачы, што сам акрыецца сорамам і пагардай, што цэлыя сем'і зробіць няшчаснымі і прычыніцца да існаваньня дзяцей народжаных у ганьбе і прызначаных да бядовага жываценьня, што сее навокал сябе згоршаньне і нішчыць папросту неаблічальнае дабро, або перашкаджае ў яго здабываньні, што стаецца прычынаю горкіх сьлёзаў і суму бацькі і маткі, што атруціўшы ім усялякую радасьць жыцьця, перадчасна заганяе іх у магілу — на ўсё гэта плоцьны гон не зьвяртае ніякае ўвагі, каб толькі асягнуць здаваленьне. Ён не заспакойваецца кароткатрывалымі ўступствамі, але настойліва дамагаецца ўсіх сваіх жаданьняў бяз межаў і часу.

Калі толькі хоць раз пойдзеш на ўступкі прывярэдліваму плоцьнаму гону, ён станецца яшчэ горш ненасытным і больш настойлівым. Ён ня зьмякне перад сьлёзамі, якія спрычыніў ня спыніцца перад няшчасьцем, якое выклікаў, ён не пакіне свае ахвяры нават і тады, калі яе вядзе да фізычнае і маральнае руіны. Пры гэтым пазбаўляе чалавека ўсякага глыбейшага ўніканьня ў рэчы вышэйшае катэгорыі; і такой адзінцы брыдне рэлігія — тая адзіная сіла, якая магла-б яго выратаваць з балота; гасьне сьвятло веры, цьмянее зорка надзеі і быццам непраглядная ноч — роспач пачынае напаўняць галаву і сэрца.

Няма больш цьвёрдага, самалюбнага, драпежнага і безразборлівага дэспата, як плюцьны гон, які патрапіў завалодаць чалавекам.

Як усё іншае магутнае ў прыродзе, так і гэты гон павінен падпарадкавацца дысцыпліне кіруючага духа. Тады і толькі тады ён можа стацца згодна з сваім прызначэньнем у сужэнстве паводля Божых прыказаньняў — крыніцай чыстае радасьці і глыбокага шчасьця.

(Далей будзе).

Паводля кніжкі Шільгэна «Du und Sie»
апрацаваў **Васіль Друя**.

# Устрыманасьць

Няпослух загадам і распараджэньням у наш аслаўлены дваццаты век ня ёсьць нечым новым, але няпослух рэлігійна-маральным і царкоўным прыказаньням у некаторых грамадзкіх кругох даходзіць да нябывалае ступені. Таму што на гэтых прыказаньнях асноўваецца маральнасьць і этыка людзтва, дык нічога дзіўнага, што ў выніку няпослуху рэлігійна-маральным прыказаньням гостра ўзрастае ступень маральнага ўпадку і злачыннасьці. Сусьветная Арганізацыя Здароўя і Маральнасьці нядаўна падала да ведама, што ў 1947 г. упадак маральнасьці сягнуў нячувных да гэтага часу разьмераў. Самазразумела, што ня ўсе краіны і народы ў аднолькавай ступені сталіся ахвяраю гэтага ўпадку; калі ў Румыніі зарэгістравана 21 выпадак на 1000 жыхароў, дык у Галяндыі толькі 8. Вялікая шкода, што няма там данных з Савецкага Саюзу і з некаторых суседніх краінаў, а тым самым і з Беларусі. Аднак што да нашае эміграцыі, дык і бяз гэтае статыстыкі ведама, што з гэтага гледзішча наша эміграцыя ня ёсьць выняткам. У нашых радох ёсьць так-жа адзінкі (дзякаваць Богу, што іх яшчэ ня шмат), якія у сваіх адносінах да маральна-рэлігійных прыказаньняў маглі-б нязгорш спаборнічаць з «прагрэсыўнымі» грамадзянамі з найбольш «прагрэсыўных» краінаў.

Цяжкае заданьне ляжыць на сумленьні сьвятара прамовіць да іх, калі яны ўнікаюць усякае лучнасьці з Царквою і духавенствам, а калі прыпадкам і пачуюць нешта з рэлігійнае навукі, дык проста ня прымаюць гэтага да ведама, як нявыгаднага для іх. Зьвяртацца да такіх людзей, раўназначна што гукаць у пустыню; пісаць гэтыя радкі — дарэмна траціць час. Аднак выконваючы свой сьвятарскі абавязак, прыходзіцца няраз гукаць у пустыню, зьвяртацца да закамянелых сэрцаў, гаварыць да тах,што адвяртаюцца і затыкаюць вушы. Згодна з прыповесьцю аб сейбіце, прыходзіцца ўсюды сеяць слова Божае; і на ўраджайнай зямлі, і на камяністай, і пры дарозе, і ў зарасьлях асоту. Цяжка ведаць, каторая душа станецца ўраджайнаю для Божага слова, а яшчэ цяжэй ведаць, каторае з Божых слоў западзе туды і магчыма праз некалькі, ці нават праз дзесяткі год прарасьце там і закрасуе.

Праўду кажучы, дык няма на сьвеце людзей, якія-б нікога і нічога ня слухаліся. Кожны нечага слухаецца. Адны слухаюць голасу свайго сумленьня, другія — сваіх змыслаў, бо з аднаго і з другога боку воля чалавека атрымоўвае загады. Калісьці філязофы, каб пагадзіць гэтыя супярэчныя загады з розных бакоў, былі паставілі прыгожы ідэал: «Будзь валадаром сваіх змыслаў і слугою свайго сумленьня». Але гэта не заўсёды лёгка выканаць. Знайшліся слабадухі, якія ў адмену крычалі: «Ужывай жыцьця, пакуль са сьмерцю ня скончыцца камэдыя». І ўжывалі. Але чым больш ужывалі, чым больш стараліся дагадзіць сваім змыслам, тымбольш чуліся ненасытнымі, тымбольш нездаволенымі. Улазілі ў жыцьцё ўсімі нагамі, як таракан у саладуху, і не маглі ўжо адтуль вылезьці, і марна гінулі. Гэта запраўды трагічная старонка людзкога жыцьця, калі думаючы вызваліцца ад тых прыказаньняў, якія акелзваюць змысловую натуру чалавека, трапляюць у страшэнны палон сваіх нізкіх гонаў, быццам у нейкі зачараваны нерат, з якога нельга выблытацца.

У старой рымскай літаратуры ёсьць апавяданьне, як у аднэй прыбярэжнай вёсцы Паўдзённае Італіі аднойчы сын пасварыўся з бацькам. Бацька вымагаў працы і послуху; сын жадаў бязьдзейнічаць і гуляць. Бацька пачаў пагражаць; сын кінуўся наўцёкі. Ён прыбег да берагу мора, ускочыў у човен і накіраваўся праз Мэсынскі праліў у Сіцылію. Бацька ускочыў у другі човен і кінуўся на ўздагон, нешта крычучы. Сын неабазнаны з морам ехаў проста ў страшэнны вір — Харыбду, таму бацька з усіх сілаў стараўся дагнаць яго і вярнуць, а сыну здавалася што іншае. Нарэшце бацька пабачыў, што далей гнацца небясьпечна для самога, кінуў веславаць і з усяе сілы пачаў крычаць толькі адно слова: Харыбда. Сын заўважыў, што бацька адстаў і нешта крычыць, стаў прыслухоўвацца і пачуў страшнае слова. Ён адразу налёг на вёслы, каб вярнуцца назад, але бяда! Вір ужо цягнуў мацней, чым ён мог супраціўляцца. Тады, бядак, кінуўся на дно чаўна, каб не глядзець на сваю загубу і праз некалькі хвілін зьнік у бяздонным віры разам з сваім чаўном.

Старая гісторыя. Калішні страшны вір, сёньняшняя Калёфаро недалёка ад скалістых берагоў Сіцыліі стаўся не такім страшным, але на вуліцах сучасных мадэрных гарадоў зьявіліся беспараўнаньня страшнейшыя віры, якія засмоктваюць асабліва новых людзей то ў вір кілішка, то ў абыймы «вясёлага таварыства», то высмоктваюць усякае зацікаўленьне да ўсяго таго, што ёсьць вышэй за цела і чэрава.

Таму мусім клікаць, біць на трывогу, пакуль яшчэ ня позна. Хоць-бы гэта адносілася толькі да некалькі адзінак — яны нам ня чужыя, яны на сумленьні ўсяе эміграцыі і ад іх можа залежаць так-жа будучыня шматлікіх. Бо той у Харыбдзе згінуў адзін; нікому ён шкоды ня прынёс. А маральны ўпадак чалавека цягне за сабою іншых. Бо кожны такі ўпаўшы сам шукае сабе кампаніі; бо як-жа выпіваць без кампаніі, як аднаму гуляць, ці весяліцца? Шукае нагоды да гэтага. Калі і ня шукае нікога, дык дае заразьлівы прыклад іншым.

Горш маецца справа, калі нехта з гэткае кампаніі займае нейкае становішча ў якойнебудзь установе, якіх дзякаваць Богу ў нас на эміграцыі натварылася нямала. Яшчэ горш, калі там знойдзецца на больш адказным становішчы, ад якога ў вялікай меры залежыць будучыня народу. Ён зусім слушна вымагае послуху для сябе ў парадку грамадзкае дысцыпліны, але як-жа беспадстаўна выглядае гэтае вымаганьне послуху, калі сам ня слухаецца маральна-рэлігійных прыказаньняў, на якіх асноўваецца ўсякая сумленная дысцыпліна і послух. Хоць-бы гэта быў самы малы ўраловец, як можа ён завесьці лад між другімі, не завёўшы яго ў сваім Я, у сваёй душы? Адгэтуль і паўстаюць усякія непатрэбныя церці і «непаразумленьні».

«Што каму за дзела да майго прыватнага жыцьця?» апраўдваецца гэткі дзеяч. Ёсьць дзела, і вельмі вялікае. Бо ўсякія немаральныя ўчынкі таксама заразьлівыя, як усякая заразная хвароба. А ў тым, ці будзе шырыцца ў нашых радох нейкая зараза, ці супраць яе робяцца нейкія заходы — гэта справа кожнага, бо ад гэтага залежыць доля кожнага. Дзеля гэтага, калі-б нехта з якіхсьці меркаваньняў забыўся аб збаўленьні свае душы, дык ўсёроўна ў імя грамадзкае дысцыпліны, на якой думае збудаваць асабісты і грамадзкі дабрабыт, мусіць усёроўна і ў асабістым і ў грамадзкім жыцьці сумленна трымацца рэлігійна-маральных прыказаньняў. Гдзе ня трымаюцца гэтых прыказаньняў, там толькі тэрор можа утрымаць нейкі парадак. Тэрору мы ўжо маем даволі. Заданьне эміграцыі палягае на тым, каб супрацьдзеяць тэрору.

Няраз можна пачуць, што маральныя выма-

ганьні Царквы занадта суровыя на сучасныя вымогі жыцьця, што яны занадта адбягаюць ад жыцьця. На тэткае гавораньне самое-ж жыцьцё дало зьніштажаючы адказ. Некалькі гадоў жыцьця бяз ніякіх маральных нормаў у некаторых бязбожных дзяржавах змусілі налажыць цуглі на вольную любоў і розныя кары на немаральныя ўчынкі; змушаны былі увясьці цэлы разьдзел у карным кадэксе за немаральнасьць — ці-ж трэба лепшага доказу патрэбы апанаваньня сваіх нізкіх гонаў?

Мэдыцына з свайго боку ня толькі навучае, але проста дамагаецца апанаваньня сваіх змыслаў. Змыслы сьляпыя і ня ўсё тое, чаго яны дамагаюцца, ёсьць карысным. Наадварот, часам зусім шкоднае. Напрыклад хвораму, які ачуньвае ад чараўнога тыфу страшэнна хочацца есьці, ён мае запраўды воўчы апэтыт, але папрабуй толькі здаволіць гэты апэтыт да схочу і на другі дзень трэба будзе рабіць дамавіну. Раненаму жаўнеру, які страціў шмат крыві, страшэнна хочацца піць, але напой яго без разбору — бескарысным ужо будзе далейшае лячэньне. Але гэта хваравлівыя выпадкі, у здаровага чалавека рэч маецца інакш — хто хоча есьці мусіць есьці, хто мае смагу — мусіць піць, чуе холад, — мусіц грэцца і ін. Аднак неабмежаванае заспакойваньне ўсіх сваіх змыслаў непамыльна вядзе да звыраднеьньня. Варта толькі адвярнуць першую старонку нашае гісторыі, каб пабачыць, што беларускі селянін, які цэлыя стагодзьдзі жыў у бядзе і нястачы, дасыта наядаўся хіба толькі на Вялікдзень і дзяды, весяліўся хіба толькі на вясельлі, апранаўся лепш хіба толькі ў большае сьвята, але царквы ніколі ня мінаў і сьвятых Тайнаў ня цураўся і вялікоднае споведзі не занедбаў і ня ведаў, што такое на верх жыць — ён перамог усякія ліхалецьці і цяжкасьці і спакойна глядзіць у будучыню. А бойная шляхта і магнаты, якія ня ведалі што есьці і піць, заспакойвалі ўсе свае жаданьні і гоны — дзесьці зьнікалі, а нядаўныя буравеі, як венікам іх зьмялі, і сьлед па іх гіне.

Як было ў мінулым, так будзе і ў прышласьці. На варце нашае лепшае будучыні, нашага грамадзкага і асабістага дабрабыту стаяць ня змыслы, але рэлігійна-маральныя прыказаньні. Таму ў інтарэсе кожнага ёсьць змабілізаваць усю сілу свае волі, усю сваю духовую моц, каб не дайсьці да таго ўпадку, з якога няма ратунку.

У Эвангельлі сьв. Лукі (раз. 15) ёсьць узрушаючая прыповесьць аб блудным сыне, які сабраўшы ўсю сваю маемасьць «пайшоў у далёкую краіну і там змарнаваў маемасьць сваю жывучы распусна. Калі-ж пражыў усё, настаў вялікі голад у гэнай краіна і пачаў галадаваць. І ён прыстаў да аднаго з жыхароў гэнае краіны, а той паслаў яго на поле сваё пасьвіць сьвіней. І ён рады быў насыціцца ражкамі, што елі сьвіні, але ніхто не даваў яму. І апамятаўшыся сказаў: колькі наймітаў у айца майго маюць лішку хлеба, а я ўміраю ад голаду!» І ён вянуўся да свайго айца і пачаў жыць чэсна і годна, як гэтае вымагаецца ад сыноў таго Айца, што ў небе. Але той сын з Харыбды не вярнуўся — сілаў ня стала. А найгоршаю Харыбдаю і ёсьць розныя маральныя ўпадкі, якія не даюць нават магчымасьці апамятацца ў час. Над гэтым варта задумацца глыбей і паважней.

Стрыманасьць беларускіх народных масаў у адносінах да ўсякіх змысловых вымогаў, ад найдаўнейшых часоў была тым дзейнікам, дзякуючы якому беларускі народ змог перажыць усякія ліхалецьці. Гэтую прыгожую нацыянальную рысу характару ня толькі мусім ведаць, але і практыкаваць у сваім эміграцыйным жыцьці.

**а. Лазар.**

**Уладзімер Дудзіцкі.**

## На скрыжаваньні

На скрыжаваньні — тры крыжы,
усе ад даўнасьці сівыя;
над імі ў споласе дрыжыць
прамень зары... Журботна вые
вільготны подых. Ля ракі,
на камяністым плыткім плёсе,
вартуе сеўшы, сьцень ракіт
сівая, згорбленая восень.
Зыбае плынь луску ляшча,
затокі мшысты бераг мые,
і рэжа косамі плюшчай
чароту выгнутыя шыі;
і плачуць мройныя кусты
калін, нячэсаныя вербы,
што неўзабаве ўбор густы —
прыпынак ценявы, дзе зьвер быў, —
аголіць руды лістапад
і замяце у кут-зацішак,
ці мо' ракі шумлівы спад
на хвалях век іх закалыша.
Хінецца горбячы свой стан,
вятрамі высмактаны блёкат.
Сьцякае з жоўтага ліста
каля карчоў бусьліны клёкат...
І шэлест гнецца у лісьці,
пачуўшы музы гэтай гукі;
разьмяк расчулены і сьціх
ад стомы мляўкае ля сука.
Над полем вораным здалёк —
праз цьвіль смуті ліпкой — аднекуль
бруіцца днёў самотных клёк —
адменны пах расьлінных лекаў;



паволі сочыцца, ідзе
да міражоў, дзе сьветлацені
прадуць на восенскай градзе
уток крылатых лятуценьняў...
І толькі зрэдзь яны адны,
нібы наструнены рукамі,
віхры — пругкія бягуны —
клубкамі коцяцца пад камень
і вырываюцца адтуль,
і да крыжоў імкнуцца бліжай, —
кранаюць дрэва на ляту
і пыл на грывы свае ніжуць.
І пахне хмеліва зямлі,
і журавы на поўдзень з хаты
нясуць бы тыя караблі,
на крылах клопат свой багаты;
спакой вазёрнае тугі
нясуць у край чужы і небыт, —
нялёгка безьліч міль тугіх
адольваць зорным шляхам неба!
Мінаюць шэрыя папар
і рунь азіміны із болем:
да пуху іхняга прыпаў
знаёмы, родны водыр поля.
Мінаюць гомельскі блакіт
і накіп воблачнага цэду...
Паўдзённай сьпёкі воск плаўкі
плыве птушыным сьвежым сьледам.
Гавораць шэрыя чужым,
што ў нас з вясной сябруе восень,
што па нябожчыцы мяжы
палёў вятры цяпер галосяць,
і сьведкі даўнасьці жывой —
крыжы, бы тыя вартавыя,
стаяць маўкліва... Хмар сувой
даўно цяпло над імі веяў...

## У райваенкамаце

(Запраўдная падзея).

Калі хто ня ведае, што абазначае «райваенкамат», значыць ён яшчэ ў «раю» ня быў і тамтэйшых «яблыкаў пазнаньня дабра і зла» ня каштаваў, бо хто там пабыў, дык адразу вам скажа, што райваенкамат гэта звычайны Раённы Ваенны Камісарыят. І вось у гэткім камісарыяце ў Заходняй Беларусі ў мястэчку М. здарылася запраўды цікавая падзея.

Вясною 1940 г. увайшоў туды аднойчы барадаты, але відаць яшчэ малады, чалавек з паперкаю ў руках і зьвярнуўся да сакратара:

— Да каго я маю згаласіцца па гэтым закліку?

Сакратар глянуў на паперку, на чалавека і кажа:

— Гэта нічога, гэта таксабе, можаце йсьці дамоў. Вас заклічуць у гэтай справе іншым разам.

— Не разумею.

— Нічога, нічога. Можаце спакойна йсьці дамоў, запэўніваў сакратар.

Ля сакратара сядзеў якісьці цывільны чалавек, як потым выявілася, пракурор, і той зараз-жа ўмяшаўся ў гутарку, зьвяртаючыся да барадача:

— Вось знаеце, я гляджу на Вас і дзівуюся; такі малады, а ўжо стаўся сьвятаром!

— Нічога тут няма дзіўнага.

— Як нічога дзіўнага? Відаць па Вас, што маеце не малую асьвету.

— Так, маю.

— І вы верыце ў Бога?

— Разумецца, веру.

— Дык-жа вучоныя даказваюць, што Бога няма і ў Яго ня верць, а як Вы, чалавек з асьветаю, можаце верыць?

— Дазвольце ў Вас спытаць імёны тых вучоных, якія даказваюць, што Бога няма.

— Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін.

— Няўжо Вы й Сталіна залічаеце ў вучоныя? Ён можа быць разумным, ці як хочаце яго назавеце, але паколькі мне ведама ягоны жыцьцяпіс, дык ён нават і сэмінарыі ня скончыў.

— Ну, праўда, з Сталіным гэта можа ня зусім... але Маркс і Энгельс гэта вялікія вучоныя.

— Вялікія, але аднабокія, спакойна заўважыў сьвятар, яны толькі сацыялёгі, ды й то аднаго кірунку і пры тым колькі іх ёсьць, пару чалавек, а вось тых запраўды вялікіх вучоных, што верылі і вераць, рахуюцца цэлыя сотні і то такія вялікія, як: Ньютон, Кэплер, Ампэр, Вольта, Ом, Паскаль, Пастэр, Марконі, Франгофэр, Плянк, Томсон і сотні іншых.

— А зрэштаю, ці трэба вялікага вучэньня, каб пабачыць, што вера ў Бога, гэта недарэчнасьць? Я калісьці чытаў Біблію, дык там-жа такія нябыліцы павыпісваны, што проста сьмешна, як у іх нехта можа верыць.

— Вы гаворыце цяпер зусім так, як той, хто нічуць не падрыхтаваны да чытаньня Бібліі.

— Хіба трэба да гэтага нейкае падрыхтаваньне? Дзівіўся пракурор.

— Пэўна што так. Вось калі ўважліва чыталі яе, дык на самым пачатку мусілі заўважыць, што апісваючы стварэньне сьвету, там пасьля кожнага дня тварэньня кажацца: «І быў вечар, была раніца, дзень адзін» і т. д., але далей гаворыцца, што толькі на чацьвёрты дзень было створана сонца. Дык вось Вам адразу гатовае

пытаньне: які-ж там быў дзень і вечар і раніца, калі ня было сонца?

— Запраўды там так кажацца, а што гэта можа значыць?

— Бачыце, цяпер Вы паставілі зусім талковае пытаньне, але каб на яго так-жа талкова адказаць, трэба ведаць самую старую ўсходнюю лінгвістыку, археалёгію, этнаграфію, трэба ведаць культурны ўзровень тых людзей, для якіх пісаліся першыя кнігі Біблії, а гэта ўсё зьяўляецца навуковаю працаю; хіба-ж гэтага не запярэчыце?

— Пэўна-ж не.

— Дзеля гэтага толькі пасьля глыбокіх, паважных і ўсебаковых студыяў можна гаварыць аб разумнасьці, ці недарэчнасьці Біблії. А так прачытаўшы толькі некалькі радкоў і гаварыць аб недарэчнасьці, дык падобна паступаючы можаце трапіць з творамі Леніна яшчэ ў горшы клопат. Папрабуйце даць каму небудзь малаграматнаму ягоныя «Філязофскія сшыткі», ці «Матэрыялізм і эмпірыёкрытызм», напэўна ня шмат чаго зразумее ў іх і скажа, што гэта бздуры. Ці-ж Вы пагодзіцеся з такою думкаю?

— Ну, што за гутарка?

—Вось бачыце! Або яшчэ лепш, каб далёка за прыкладамі не хадзіць, вось дайце мне так расхвалены танк, а я ня ведаю нават як яго ў рух пусьціць і дзеля гэтага ён для мяне зусім нічога ня варты, але ці-ж гэта азначае, што ён у сабе нічога ня варты?

— Ну, дзе-ж там. Але ведаеце, мне прышла цікавая думка.

Калі так сьвятар і савецкі пракурор размаўлялі, ў райваенкамаце, неяк усе паволі прыціхлі і ўважна прыслухоўваліся да гутаркі. Нават дзьверы з пакою камісара так-жа адчыніліся і адтуль некалькі пар зыркіх вачэй пільна сачылі за размаўляючымі. Пракурор першы заўважыў гэтыя позіркі і таму раптам зьмяніў тэму гутаркі.

— Ведаеце было-б вельмі цікава, каб мы зрабілі такі публічны дыспут. Мы наперад азначылы-б тэму і адпаведна падрыхтаваліся. Гэта будзе для ўсіх вельмі цікава і карысна.

— Цікава магчыма, але каб карысна, дык гэта цяжка сказаць.

Чаму так думаеце? Раней у Расеі такія дыспуты ладзіліся часта і на іх выступалі прадстаўнікі ўсіх веравызнаньняў зусім свабодна з сваімі думкамі.

— Бачыце, самі кажаце, што гэта было раней, а не цяпер.

— І цяпер у нас так-жа поўная свабода.

— Добра. Але ўявеце сабе, што сталася-б з Вамі, як-бы прыпусьцім, што ў такім дыспуце я Вас абсек?

— А як-бы в Вас абрэзаў, што-б Вы рабілі?

— Я, як сьвятар мог-бы быць Вам толькі ўдзячны, бо якое наша становішча цяпер? Абяспраўленыя, асьмеяныя, паніжаныя на кожным кроку, а калі возьмеце каталіцкіх сьвятароў, дык нават і таго дробнага задаваленьня ня маюць, якое дае сямейнае жыцьцё. Заўсёды наражаныя на розныя цярпеньні і нават на сьмерць за свае пераканьні. Зрэштаю Вы лепш за мяне ведаеце ў якім палажэньні знайходзяцца служыцелі рэлігійных культаў, таму ў Вашых вачох мы ня маем нічога да страчаньня, калі-б страцілі свае перакананьні, за якія прыходіцца толькі цярпець. Аб іншых матывах Вам гаварыць няма патрэбы.

— Гм, цікава Вы гаворыце.

— Калі Вы будзеце мець цікавасьць да рэлігіі, дык, думаю, што яна Вам больш прыслужыцца, як усякія дыспуты.

— Як Вы гэта разумееце?

— Вельмі проста. Цікавасьць знайсьці праўцу, ўканцы давядзе да праўды. Каб доўга гэтага не паясьняць, дык калі дазволіце, раскажу Вам адно здарэньне з жыцьця, якое наглядна выясьніць тое, што хачу сказаць.

— Калі ласка, ахвотна паслухаем.

— Прыблізна каля 1935 г. я вычытаў у часопісях, што якісьці вялікі буржуй, але яшчэ большы недаверак зайшоў аглядаць адну з сьвятыняў у Парыжу і натрапіў якраз на казаньне аб раю. Адным вухам нібы слухаў ад нехачу тое казаньне, а праз другое выпускаў. Але трэба-ж такога выпадку, што назаўтра стрэнуў на вуліцы таго сьвятара, які меў казаньне аб раю і задумаў пасьмяяцца з яго. Падышоў да яго, прывітаўся і кажа:

— Ойча, учора я чуў, як Вы гаварылі аб раю і ён мне так спадабаўся, што я хачу папрасіць у Вас адрэс, каб магчы глянуць на яго.

— Добра. Зусім паважна адказаў той. Толькі пакуль Вы яшчэ тупчаце гэтую зямлю, дык увайсьці туды ня зможаце, але ў сенцах можаце пабыць і адным вокам глянуць туды.

— Добра й гэта.

— Толькі гэта Вам будзе дорага каштаваць.

— Нічога, я грошай троха маю і магу сабе пазволіць заплаціць нават дарагі білет уступу ў такую цікавую ўстанову.

— Тады йдзем.

Ён завёў таго буржуя ў харчавы магазын і казаў накупляць розных спажыўных і смачных рэчаў, заглянулі яшчэ ў краму з вопраткаю і абладаваліся абодва так, што ледва маглі панесьці. Пасьля гэтага яны накіраваліся ў работніцкі квартал Парыжу, зайшлі ў якуюсь цёмную сутарэну і пастукаліся ў дзьверы. На ціхі заклік увайшлі ў бедны цемнаваты пакой. Хворая жанчына ляжала на ложку, а пяцёра малых дзяцей нешта майстравалі на падлозе. *Пабачыўшы сьвятара*, які відаць ім быў добра знаёмы, малыя дружна прывіталіся з ім і абступілі з усіх бакоў, крычучы адно перад другім.



— Ціха, ціха малыя, супакойваў іх. Вось бачыце гэта дабрадзей хоча вам зрабіць падарунак на Вялікдзень і во колькі прынес прыгожых і смачных рэчаў.

Сьвятар пачаў раздаваць малым адну рэч за другою, а тыя з крыкам і падскокамі беглі да хворае маці, то адно да другога, то да самага дабрадзея і сьвятара, яны круціліся, сьмяяліся на ўсе лады, паказвалі свае падарункі, каштавалі прысмакі, давалі каштаваць хворай маме, нарэшце малая дзяўчынка, скарыстаўшы мамэнт, як дабрадзей даставаў апошнюю торбачку з цукеркамі ўчапілася яму за шыю і моцна, моцна падзяцiннаму пацалавала яго ў аблічча, кажучы:

— Вы добры, Вы вельмі добры!

Сьвятар стоячы збоку казаў дабрадзею:

— Гляньце ў яе вочы і ў вочы іншых. Ці бачылі Вы калі небудзь нешта падобнае?

— Так гэта запраўды нязвычайная радасьць, якое я ніколі ня бачыў, казаў узрушаны дабрадзей.

— Гэта ёсьць радасьць шчасьця. І гэта якраз ёсьць маленькаю іскраю тае радасьці, якую людзі будуць мець вечна ў раю. А калі Вы зможаце больш рабіць так, як цяпер зрабілі, дык пабачыце яшчэ больш і самі туды трапіце.

— Толькі я вычытаў у тым часапісе. Думаю, што тамтой буржуй зьмяніўся, а давяла яго да гэтага цікавасьць, казаў сьвятар зьвяртаючыся да пракурора.

У райваенкамаце ўсе маўчалі. Толькі сакратар, відаць, узрушаны прыкладам і думаючы аб тым, што гэта было ў каталіцкай Францыі, няўпрыцям для сябе ні адтуль ні адсюль напоўголасна прашаптаў:

— Так, вераў шмат, але каторая праўдзівая?

На гэтыя словы пракурор раптам прыпомніў, што ён мусіць ужо выходзіць і камісар зачыніў хутка дзьверы. Сьвятар спакойна выйшаў з райваенкамату, і мне казалі (а чаго людзі ня кажуць), што яго больш у ваенкамат ня клікалі, але ўсіх ўрадаўцаў там чамусьці хутка зьмянілі.

**А. Жменя.**

# Хвароба над хваробамі

(Перадрук із зборніка А. К. Сержпутоўскага «Сказки и разсказы бѣлорусовъ полѣщуковъ», С.-Петербургъ, 1911).

Жыў сабе адзін чалавек. Быў ён ня то што багаты, а так сабе добры гаспадар; гараваў, не ленаваўся, дык і меў кусок хлеба й грош пра патрэбу. Толькі даў яму Бог няшчасьце: быў у яго адзін сынок, гэтак хлапчук гадоў дванаццаць. Гожы быў, ціхі хлапчук. Радаваўся Семко, так называўся той гаспадар, што скора яму будзе падмога. Дык не-ж. — Захварэў Янка. Што ні рабілі Семко з жонкаю, якіх толькі варажбітоў ні звалі, якіх зельляў не давалі, — нічога не памагло. Праўду кажуць: калі Бог ня дасьць, то людзі не памогуць. Пакачаўся Янка з нядзельку, да й памёр. Горка заплакаў Семко й з таго часу пачаў піць. А Матруна — жонка Семка — з жалю аж білася аб сьцену галавою. Каб добрыя людзі ня прытрымалі, то-б яна й галаву размажджыла. Яна хоць была яшчэ й маладая, але ня даў Бог ёй больш дзяцей. Ня можа Матруна нават плакаць, сьлёз няма, вочы высахлі. Пойдзе яна на могліцы й сядзіць там цэлы дзянёк, ды галосіць. А Семко ўсё часьцей ды часьцей паседжвае ў карчме. Ведама без гаспадара й гаспадыні стала хаджайства нішчыцца. Паглядзіць Семко на хаджайства, возьме яго жаль і яшчэ горай зап'е. От раз ужо мо ў самую глупась, вышаў Семко з карчмы. Быў ён падвыпіўшы; падышоў каля дарогі к крыжу, спатыкнуўся, да й ссунуўся ў канаву. У канаве вады ня было, толькі трохі гразі. Ночка цёплая. — Аддыхну — думае Семко й палажыў голаў на траву. А трава мяккая, як падушка. Ляжыць Семко дагары й глядзіць колькі зорак на небе. Ось адна зорка пакацілася й патухла. — Мо гэта душачка майго Янка, — думае Семко. Толькі ён гэта падумаў, бачыць, ажно Янка, от так як жывы, стаіць каля крыжа. Спужаўся Семко, а Янка падышоў к яму бліжэй да й кажа: ня бойся бацька, гэта мяне Бог паслаў к табе, каб я перасьцярог цябе. Хадзем я табе ўсё пакажу! Падняўся Семко й падышоў к сыну. Узяў Янка бацька за руку й паляцелі яны, як віхар. Ляцяць яны аж вецер каля вушаў сьвішча. Доўга яны ляцелі, ці коратка толькі апынілся на гары. Тупнуў Янка нагою аб камень і адчыніўся склеп. Паляцелі яны ў склеп, як у калодзезь; даляцелі да дна. Стукнуў Янка кулаком у сьцену, і адчыніліся дзьверы. Вайшлі яны туды. Бачыць Семко, ажно гэта — вялікая хата, пасярод стаіць якбы стол, зроблены з чалавечых косьцей, а пры сьценах лавы. Хацеў Семко прасіць сына, каб ён вывеў яго з гэстага калодзезя, але бачыць, што Янка няведама куды дзеўся. Семко й схаваўся пад лаўку. Сядзіць ён у самым куце й ня дыша ад страху; душа ў пяткі схавалася, чуць з цела ня выскачыць. Сядзіць ён. Але ось расступілася зямля й вышлі дзьве якіясь нечысьці ў пастаці чалавека, толькі вельмі касматыя й з рагамі; паскладвалі яны ў кучу чалавечыя чарапы, паветрылі насамі бы сабакі, ці няма чаго непатрэбнага й леглі каля кучы. Па немалым часе трэснула сьцяна й нарабіла такога гуку, што ў Семкі дух сперла

й у ваччу пацямнела. Ачухаўся ён трохі, бачыць ажно з дзіркі вылазіць такая страшная нечысьць, што ня можна й сказаць. А чэрці ўсялякага калібру вядуць гэтую нечысьць пад рукі, шапкуюць, услугоўваюць, от нераўнуючы бы архірэя. Дагадаўся Семко, што гэта мабыць самы старшы чорт — Ніцыпар. Хацеў перахрысьціцца, дык пад лаваю так цесна. што нельга рукі пашавяліць. Ось Ніцыпар узабраўся на кучу з чалавечых касьцей да й усеўся бы пан на крэсьле. Сядзіць, а чэрці стаяць па бакох да зубы скаляць. Трэснула й яшчэ адна сьцяна й пачалі вылазіць адтуль, — напярод сьмерць з касою (от акурат, як малююць), а за ёю ўсялякія хваробы. Налезла гэтае пошкудзі поўна хата. — Ну, каа (кажа) Ніцыпар, — ты, сьмерць. садзіся каля мяне, а вы мае пахолкі, кажэце што вы зрабілі ці многа людзей перабаўлі з таго сьвету. — Расьселася сьмерць каля Ніцыпара на кучы касьцей так, што ўсе й рэбра забрашчалі. Ну каа (кажа) Ніцыпар. — падхадзеце, да кажэце, што вы зрабілі — І пацягнуліся хваробы бліжэй к кучы. Перш падышла хондзя, ці як кажуць трасца, — зялёная. худая, от бы тая жыдоўка, што анучы зьбірае. Дрыжыць бы асіна й кажа тоненькім пісклявым галаском: кепская настала цяпер пара: зельляў многа: трасу-трасу гняту-гняту. нічога не параджу. Цяпер людзі кажуць, што пурымы ня сьвята, а трасца не хвароба. — Глядзі ў мяне! — закрычаў Ніцыпар, — я дам табе такога дыхту. што з цябе духі выпра. Пашла вон. Зьнікла трасца. Падходзіць хвароба сухоты. — Я, — каа (кажа) — многа атпраўляю людзей на гэты сьвет, многа падгатавала. Дзякуваць п'янству. Пры гэтых словах яна пакланілася якойсьці бочцы, а з тае толькі тырчыць аблезлая галава з сінім носам,дзякуваць, яно мне багацка памагае. — Добра, добра. — кажа Ніцыпар, зраблю цябе старастаю. — Далей пашлі: воспа, разачка, халера, гарачка, адзёр і многа другіх хвароб. Усе яны кажуць што вельмі памагло п'янства. Слухаў, слухаў Ніцыпар, да й пытае: Якое такое там п'янства. што ўсе яму дзякуюць? Што-ж яно само зрабіла? Падсуналася бочка, ці бо тое самае п'янства, да й кажа: «го-го-го! што я зрабіла? Я тое зрабіла, што цяпер каб ня я, то-б усе хваробы ні годнага-б чалавека не ўмарылі; сьмерці прышлося-б ці зубы палажыць на паліцу ці суздром здохнуць». Праўда, — каа (кажа) сьмерць, п'янства верна мне служыць: яно робіць больш, чым усе хваробы разам. А колькі яно яшчэ прыгатаўляе. Што па гатовам у хадзіць! Пасьля п'янства возьме й трасца, і пухліна, і разачка, і ўсялякая хвароба. Не, а от ты папрабуй к здароаму прыступіцца! калі ты сунешся к яму ў жывот а ён цябе давай варыць; круцішся, круцішся, да й вон скарэй бяжыш, бо ён і камень зварыць. — Хвалю п'янства! закрычаў Ніцыпар, — раблю цябе самым старшым, хваробаю над хваробамі. Цяпер цябе ўсе будуць слухаць. Хадзі каханае п'янства ка мне, садзіся каля мяне. Запішчалі, захрыпелі ўсе хваробы, сталі віншаваць п'янства да такі паднялі гоман, што дол расступіўся, і ўсе яны паляцелі чорт ведае куды. Дрыжыць Семко пад лаваю, ня сьмее адтуль выпаўзьці, але зірнуў ажна Янка стаіць каля яго. Узяў Янка бацька за руку й зноў яны паляцелі. Доўга ляцелі яны каля самых зорак. чуць не зачапіліся за месяц, пакуль не вярнуліся на тое-ж мейсца пад крыж. гдзе Семко ляжаў у канаўцы. — Ну. бацька. бачыў? — пытаецца Янка. — Бачыў каа (кажа) Семко. — А калі бачыў, то йдзі з Богам да гасподы й раскажы другім. — Сказаў Янка й зьнік. Глядзіць Семко, ажно ён ўсю ноч у канаве ў гразі праляжаў. Холадна. зуб на зуб не пападзе. Дрыжыць увесь. як-бы яго трасца трасе. Падняўся гэта ён, перахрысьціўся, да да гасподы сунуў бы хорт. Але мабыць з тае пары Семко больш ня пойдзе ў карчму й ня будзе піць. Мо'й гэ (можа й так). А ты як думаеш?

**Вёска Чудзін.**

Пераказаў **Савіцкі**; запісаў **А. К. Сержпутоўскі.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

### Залаты Юбілей Сьвяцейшага Айца.

У мінулым месяцы Сьвяцейшы Айцец Пій XII азначыў 10-ыя ўгодкі свае каранацыі, а 2-га красавіка прыпадалі 50-ыя ўгодкі Ягонага сьвятарства. З гэтая нагоды ў нядзелю 3-IV у Рыме і па ўсім каталіцкім сьвеце гэты дзень быў азначаны прынагаднымі ўрачыстасьцямі і багаслужбамі. Сам Сьвяцейшы Айцец адслужыў урачыстую Службу Божую ў архібазыліцы Сьв. Пятра. На знак сучаснага цяжкога палажэньня Каталіцкае Царквы, з волі самога Сьвяцейшага Айца, Ягоны ўваход у архібазыліку не суправаджаўся ані звычайнымі воклічамі ані воплескамі вернікаў. Толькі пасьля Службы Божае, калі Сьвяцейшы Айцец багаславіў з балькону архібазылікі шматтысячны натаўп вернікаў на пляцу сьв. Пятра, адусюль лунала гучнае «Хай жыве папа!»

### Новыя сьвятыя.

Сёлета прадбачацца у Рыме 3 кананізацыі і 5 бэатыфікацыяў. Паводля дэкрэту Сьвяцейшага Айца Пія XII будуць кананізаваныя (абвешчаны сьвятымі): блажэнная Бартоломея Капітаніё асноўніца Дабрадзейных Сясьцёр, блажэнная Марыя-Язэпа Розэльлё асноўніца Інстытуту Дачок Нашае Валадаркі Літасьці і блажэнная Іванна дэ Валюа. Залічанымі ў лік блажэнных маюць быць: слуга Божы Юльян Монуар, слуга Божая Роза Вэнэрыні асноўніца пабожных настаўніцаў, слуга Божая Вінчэнца Жэроза, слуга Божая Іванна дэ Лестонак асноўніца чыну Багавешчаньня Найсьвяцейшае Дзевы Марыі.



# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## АНГЛІЯ.

### Трэці Агульны Зьезд ЗБВБ.

Дня 20-III г.г. у Беларускім Доме ў Лёндане адбыўся трэці Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Зьезд распачаў сваю працу малітвай, наступна пасьля фармальнага адкрыцьця, прысутны на зьезьдзе англійскі юрысканзультант выясьніў праўнае палажэньне ЗБВБ, набытае падчас легалізацыі. Пасьля адбылося прыняцьце новага залегалізаванага статуту, выбары мандатнае камісіі, справаздачы Галоўнае Управы: старшыні, скарбніка і сакратара, справаздача Нагляднае Рады. З гэтых справаздачаў перад удзельнікамі Зьезду яшчэ раз ажыла тая аграмадная праца, прароблена за мінулы год: купля дому, легалізацыя, актыўны ўдзел у арганізацыі САБЭ, удзел у міжнацыянальным Каардынацыйным Камітэце Дапамогі Уцекачом у Лёндане, выдавецтва, узмацненьне працы аддзьдзелаў і ін. Побач гэтых асягненьняў не забыліся паказаць і на недасягненьні.

Дыскусыя над справаздачамі выказала паважны арганізацыйны рост і сілу ЗБВБ. Ня толькі сябры, але нават госьці з «апазыцыі» мелі поўную свабоду слова нават і тады, калі гэтую свабоду надужывалі, кампрамітуючы гэтым самых сябе.

Пасьля дыскусыі адбыліся выбары галоўнае управы, у склад якое ўвайшлі: старшыня — Ф. Бартуль, заступнік старшыні — Ал. Крыт, сакратар — Надсон, скарбнік — Я. Садоўскі, сябры: В. Богданавічанка і Кляйноў.

Зьезд выслаў прывітальныя тэлеграмы прэзыдэнту БНР М. Абрамчыку, брытыйскаму ўраду на рукі прэм'ер міністра і старшыні САБЭ.

### Сьвяткаваньне 25-III у Лёндане.

Беларуская калёнія ў Лёндане сёлета ўрачыста азначыла 31-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. А гадз. 10 дня 25-III а. др. Ч. Сіповіч адслужыў у намераньні бацькаўшчыны ўрачыстую Службу Божую ў капліцы Марыянскага Дому і сказаў прыгожае і зьмястоўнае казаньне. Прыгожа сьпяваў хор хлапцоў літургічныя і набажныя песьні. А гадз. 13 у праваслаўнай царкве а. Тарановіч адслужыў малебен, на якім былі прысутныя так сябры ЗБВБ, як і ХАБР.

Папалудні адбылася акадэмія ў Беларускім Доме, на якой былі прысутныя так-жа і англійскія госьці. На праграму акадэміі зложыліся рэфэраты: др. Жук-Грышкевіча — аб значэньні акту 25-III, Клубіка — аб беларускім адраджэньні; наступна прамовы: а. др. Ч. Сіповіча — аб бліжэйшых і далейшых імкненьнях народу, адною з якіх ёсьць незалежнасьць, а другою Бог; і прамова Арцюха аб падрыўной рабоце тых, якія змагаюцца з беларускім вызвольным рухам.

Наступна дэклямацыі і сьпеў паднялі ўрачысты настрой прысутных. Закончылася акадэмія агульным адсьпяваньнем гымну. Пасьля адбылася гарбатка для ўсіх прысутных.

## АЎСТРАЛІЯ.

### Дапамога прэсе.

Нешматлікая беларуская эміграцыя ў правінцыі Вікторыя на сваёй зборцы дня 27-II пастанавіла ападаткавацца па 10 шыл. месячна для падтрыманьня беларускае нацыянальнае прэсы на эміграцыі.

## АЎСТРЫЯ.

### Абход Нацыянальнага Сьвята.

Стараньнем Аб'еднаньня Беларусаў у Верхняй Аўстрыі дня 27-III быў наладжаны абход беларускага Нацыянальнага Сьвята ў ДП лягэры ў Рыдзе, куды зышліся так-жа беларусы з ваколіцы, між якімі знайшліся: блізкі сваяк Я. Коласа і былы малады беларускі партызан.

Урачыстасьць распачалася багаслужэньнем, якое адправіў у лягэрнай капліцы ведамы беларускі пастар Ян Пятроўскі і зьвярнуўся да прысутных з казаньнем, у якім гаварыў, што права на ўладаньне нашай зямлёю мы атрымалі ад Бога і ніхто ня можа нас пазбавіць гэтага права. Беларускі народ усьведаміў сабе гэтае права і выказаў яго актам 25-га сакавіка.

Папалудні а гадз. 14 адбылася ўрачыстая сходка пад кіраўніцтвам старшыні Аб'еднаньня А. Яцэвіча, які прачытаў рэфэрат аб гісторыі і значэньні акту 25-га сакавіка, пасьля чаго беларускія жанчыны запрасілі прысутных на «гарбатку». У прасторнай салі, упрыгожанай беларускімі сьцягамі, гэрбам і зеленьню, у мілай сямейнай атмасфэры з прынагаднымі прамовамі гаспадароў і госьцяў, пераплятанымі беларускімі народнымі песьнямі, урачыстасьць набрала своеасаблівага характару і зрабіла на прысутных незацёртае ўражэньне.

Уканцы былі сабраны ахвяры на беларускі друк у Аўстрыі.

## БЭЛЬГІЯ.

### Беларускія аўдыцыі ў радыё.

Саюз Беларусаў у Бэльгіі і Беларускае Студэнцкае Згуртаваньне ў Лювэн пры выдатнай дапамозе А. Эртса наладзілі дня 5-га красавіка ў радыёстанцыі Лімбург беларускую паўгадзінную аўдыцыю з багатай інфармацыйнай і мастацкай часткай. Гэтая самая праграма мае быць паўторана 18-IV у радыёстанцыі Бруксэль III на хвалі 237 м. а гадз. 16,15. Ёсьць надзея, што

гэта добры пачатак для далейшых падобных перадачаў у бэльгійскім радыё.

## ВЭНЭЦУЭЛЯ.

### Умовы жыцьця.

Вэнэцуэля — краіна вельмі багатая. Насельніцтва налічваецца каля 4-х мільёнаў, пераважная большасьць якога жыве ў гарадох. Земляробствам займаюцца мала і стаіць яно на вельмі нізкім узроўні за выняткам асобных фармаў. У разьвіцьці сельскае гаспадаркі палягае вялікая будучыня краю. З увагі на гэтую акалічнасьць улады зацікаўленыя ў прыезьдзе эміграцыі. Аднак пытаньне калёнізацыі не распрацавана і, зразумела, не ўнармавана. Над гэтым якраз і працуе цяперашні ўрад Вэнэцуэлы.

Надзвычайна высока стаіць справа гандлю, рамесьніцтва і асобных формаў лёгкае прамысловасьці. З гэтага гледзішча тут кожны чалавек, у тым ліку і эмігрант, які мае грошы, мае магчымасьць адразу пачынаць сваю ўласную справу.

Працоўныя-спэцыялістыя дастаюць працу даволі хутка. Аднак праца тут не гарантуецца; работнік і ўрадавец могуць быць звольнены ў любы мамэнт бяз ніякае кампэнсацыі. Гэтае пытаньне становіць вялікую праблему.

Чарнарабочаму даюць працу значна цяжэй. Зарабіць ён можа за 8-і гадзінны дзень працы ад 8 да 12 балівар. За гэты заработак могуць пражыць 2 асобы, але грошай не назьбіраюць, гэта жыцьцёвы мінімум. Разьлічваць на ўрадовую працу бязумоўна можа толькі той, хто ведае добра гішпанскую мову.

Аўтамэханік зарабляе ад 18 да 25 балівар на дзень, тэхнік — 20-26, інжынер — 30-50. Найбольш зарабляюць інжынеры нафтавікі і горныя інжынеры. Аграномы і лекары тымчасам зусім не патрабуюцца.

Лісты асобных людзей пра асабліва цяжкі стан эміграцыі, малыя заработкі і адсутнасьць працы амаль не адказваюць праўдзе. Хто хоча працаваць і любіць працу — будзе жыць добра. Галоўнае тое, што тут чалавек мае права, як кажуць, пачынаць даслоўна ўсякі «інтэрас».

Да гэтага часу тут беларусаў мала. На сёньняшні дзень налічваецца каля 150 чалавек, але ўсе яны вельмі расьцярушаныя, таму вельмі цяжка распачаць нацыянальную працу. Стараньні да гэтага робяцца, але адчуваецца нястача інтэлігэнцыі.

## ДАНІЯ.

### Азначылі нацыянальнае сьвята.

Дня 25-III беларусы, пражываючыя ў лягэры Тыстэд у Даніі, вывесілі на лягэрнай шчогле беларускі нацыянальны сьцяг і прымалі ад прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў прывітаньні і пажаданьні хуткага павароту ў вольную і незалежную Беларусь.

## КАНАДА.

### Першы раз.

Ад калі зьявілася беларуская эміграцыя ў Канадзе, толькі сёлета першы раз дзякуючы дзейнасьці нядаўнастворанаму Згуртаваньню Беларусаў у Канадзе былі азначаны ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Урачыстасьць адбылася дня 27-III. Рана пасьля Службы Божае ў украінскай царкве ў Торонто быў адслужаны малебен за Беларусь, а папалудні ў памешканьні старшыні ЗБК была наладжана кароткая акадэмія.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Урачыстасьці на чэсьць Сьвяцейшага Айца.

Беларусы каталікі ў Нямеччыне азначылі дзясятыя ўгодкі каранацыі сьвяцейшага айца Пія XII сваім грамадным удзелам у Службах Божых, якія ў гэтым намераньні служыў а. М. Маскалік. Дня 12-III была адслужана Служба Божая ў Мюнхэне, 13-III у Остэргофэне, 14-III у Віндзішбэргэрдорфе. Усюды пры гэтай нагодзе а. М. Маскалік меў казаньні, ў якіх паясьняў дзейнасьць Сьвяцейшага Айца, Ягоную апеку над эміграцыяю агулам і над беларусамі у асобнасьці.

### Дейнасьць Харытасу.

Беларуская Харытатыўная Служба ў Нямеччыне апошнім часам значна пашырыла сваю дзейнасьць у справе эміграцыі ў Амэрыку. Дзякуючы гэтым стараньням ужо некалькі чалавек выязджае, а іншыя так-жа хутка маюць атрымаць дакуманты для выезду.

Пры гэтай нагодзе зьвяртаецца ўвагу ўсім зацікаўленым у справе выезду ў Амэрыку, што дзеля гэтага яны могуць зьвяртацца да адзьдзелаў Беларускае Харытатыўнае Службы ў Нямеччыне. На Амэрыканскую зону: лягэр Віндзішбэргэрдорф — старшыня А. Пюпко, лягэр Остэргофэн — старшыня др. П. Гайдзель. У Ангельскай зоне: Цэнтраля Беларускае Харытатыўнае Службы у Госляры, Зоммэрволенстр. 1. А.; Лягэр «АБЦ» у Ватэнштэце — старшыня др. Гагалінскі І.; лягэр «А» Нортгайм - старшыня В. Лінкевіч.

### Урачыстасьці ў чэсьць акту 25-III.

Сёлета ў Нямеччыне 31-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі былі азначаны рознымі ўрачыстасьцямі ўва ўсіх большых скупленьнях беларусаў. Ня маючы магчымасьці зьмясьціць іх усіх, падаём для прыкладу хаця з некаторых лягэраў:

**Віндзішбэргэрдорф.**

Урачыстасьць распачалася вечарам 24-III. Беларускія скаўты і вэтэраны пры скаўцкім вогнішчы і напалову апушчаным сьцягу на лягэрнай шчогле адсьпявалі жалобны гымн за палеглых змагароў. Затым пайшлі ў царкву дзе была адслужана паніхіда. Раніцаю дня 25-III у царкве адбылося багаслужэньне за Беларусь а вечарам а гадзіне 19 у лягэрнай салі была наладжана ўрачыстая акадэмія з рэфэратамі, інсцэнізацыяй вучнямі гімназіі Я. Купалы «Песьні Каліноўскага». З урачыстым і паважным настроем расходзіліся прысутныя з лягэрнае салі.



Беларуская каталіцкая капліца ў Віндзішбэргэрдорфэ.

**Ватэнштэт.**

Раніцаю дня 25-III а. М. Маскалік адслужыў урачыстую Службу Божую ў намераньні Беларускага Народу, пры гэтым зьвярнуўся да прысутных з шчырам словам пацехі і заклікам служыць Богу і беларускаму народу. А зьвяртаючыся да моладзі, казаў: «Ты, моладзь, будучыня нашага народу, ад цябе залежыць доля ўсіх. На табе ляжыць абавязак здабыць шчасьлівейшую долю для народу. Каб выканаць гэты абавязак, мусіш быць вернай Богу і мець адвагу бараніць праўду ўсюды і перад усімі. Твая дарога — Бог і Бацкаўшчына. Толькі на гэтым шляху знойдзеш шчасьце для свайго народу. Ня йдзі за тымі, хто выракаецца Бога і зьневажае Яго публічнымі грахамі, бо гэткія людзі і самі йдуць да маральнае руіны і іншых да гэтага цягнуць. Адзіны шлях, хоць і цяжкі няраз, але які напэўна давядзе да ажыцьцяўленьня ідэалу 25-га сакавіка ёсьць Бог і Бацькаўшчына».

Папалудні адбылася адпаведная акадэмія.

**Міттэнвальд.**

Беларуская група лягэру Лютэнзээ у Міттэнвальдзе вечарам дня 24-III ушанавала памяць загінуўшых у змаганьні за волю Беларусі перад памятнікам слуцкіх паўстанцаў. Туды-ж з суседняга лягэру прыехалі украінскія пластуны. Моцныя і шчырыя словы пачуліся ля магілы паўстанцаў, але асабліва глыбока запалі ў душы прысутных словы украінскага прадстаўніка, які між іншым казаў: «Складаем зямны паклон тым, хто аддаў сваё жыцьцё за Беларусь», далей заклікаў да салідарнай барацьбы за волю, бо «няма нашай волі бяз вашай, ані вашай бяз нашай». На магіле беларусы і украінцы зламкылі прыгожыя вянкі. Пасьля гэтага мяйсцовы сьвятар а. Барыс адслужыў паніхіду па загінуўшых змагарох.

Дня 25-III сіламі мяйсцовае беларускае пачаткавае школы была наладжана акадэмія, якая не зважаючы на розныя намаганьні варожых элемэнтаў прайшла вельмі ўдала і зрабіла на прысутных добрае ўражэньне.

## ФРАНЦЫЯ.

### Беларускія ўрачыстасьці ў Ліоне.

Невялічкая беларуская калёнія ў Ліёне дня 25-III вечарам сабралася ў парахіяльнай салі пры касьцёле сьв. Антона, каб ушанаваць дарагі беларускаму сэрцу дзень абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Пасьля адсьпяваньня гымну і ўшанаваньня памяці загінуўшых за волю Беларусі а. Фр. Чарняўскі сказаў прамову аб абавязках адносна бацькаўшчыны. Дэклямацыі, сьпевы, гутаркі аб багацьцях Беларусі дапоўнілі праграму. Уканцы пастанавілі выслаць прывітальную тэлеграму прэзыдэнту М. Абрамчыку.

### Крэзо азначае Нацыянальнае Сьвята.

Стараньнем мяйсцовае філіі Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі былі ўрачыста азначаны 31-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. На праграму дня скаліся: Служба Божая ў 11 гадз., якую адслужыў а. Фр. Чарняўскі і пры гэтым зьвярнуўся да прысутных з прамаўляючым да душы казаньнем, у якім выясьніў, што кожны народ на сьвеце існуе з волі Бога і з Ягонае-ж волі мае пэўныя азначаныя рысы характару, асаблівасьці мовы і бацькаўшчыну, з якою кожны злучаны моцнымі вязямі любові. «З Сьвятога Пісаньня ведама, што Бог заўсёды ўзглядніваў у сваіх плянах гэтую любоў да роднага. Ён заўсёды прамаўляў да народу ў мове таго народу, да якога зьвяртаўся ці беспасрэдна Сам, ці праз пракакаў, якія за грахі народ сурова асуджалі, але ў хвілінах цярпеньня плакалі з народам горкімі сьлязамі, напр., Ерамія. Хрыстос так-жа не аднойчы даў прыклад любові да роднага. Ён незадоўга перад сваею сьмерцю, ведаючы страшную долю, якая мела спаткаць Ерузалім, расчуліўся над ім да сьлёз. Апосталы, калі мелі разыйсьціся між народамі, атрымалі дар Сьвятога Духа гаварыць рознымі мовамі, каб магчы кожнаму народу несьці добрую вестку аб Хрысьце ў роднай мове. Сёньня Апостальскі Пасад у Рыме

так-жа стараецца йсьці тым самым шляхам; высылаючы місыянароў ца розных народаў, загадвае ім перш вывучыць мову таго народу, да якога мае йсьці, дрэнныя тыя місыянары, якія ад гэтага наказу стараюцца знайсьці выкрут, яны тады йдуць супраць волі Хрыста.

Сьвятых апякуноў краю ў Рыме звычайна вызначаюць з ліку сьвятых таго-ж краю — для Беларусі сьв. Еўфрасіня князёўна Полацкая. Нябесная Валадарка Беларусі з волі сьвяцейшага айца Клімэнта XII ад 19-IX-1730 г. ёсьць Найсьвяцейшая Жыровіцкая Божая Маці.

Таму, хто не шануе свайго роднага, а яшчэ горш, хто выракаецца яго, той цяжка грашыць. Кожны павінен добра ўсьведаміць, што павінен дбаць ня толькі аб сабе, але і аб сваёй бацькаўшчыне і не шкадаваць для яе магчымых ахвяраў і малітваў».

Папалудні ў салі Хрысьціянскага Сындыкату, адбылася акадэмія. Між прамаўляючымі акрамя беларусаў з прыхільнымі пажаданьнямі выступіў прадстаўнік францускага сындыкату СФТС і украінскія прадстаўнікі ад Украінскага Хрысьціянскага Сындыкату і Украінскага Вайсковага Таварыства. Наступна беларускія песьні і дэклямацыі дапоўнілі праграму. Гэта было першае беларускае нацыянальнае сьвяткаваньне ў Крэзо і расышлося яно гулкім рэхам між сваіх і суседзяў.

### Арганізацыя Моладзі.

Дня 26-III г.г. у памешканьні Хрысьціянскага Сындыкату ў Парыжу адбыўся першы Зьезд беларускае моладзі з абшару Франціі. На гэтым Зьезьдзе запачаткавана Беларускую Незалежніцкую Арганізацыю Моладзі (БНАМ). Мэтаю гэтае арганізацыі ёсьць: зарганізаваць усю беларускую моладзь у Франціі і прыцягнуць яе да актыўнае творчае, культурнае і нацыянальнае працы для дабра свайго народу.

На Зьезьдзе быў прыняты статут і выбрана цэнтральная ўправа, ў склад якое ўвайшлі: старшыня — Я. Філістовіч, сакратар — А. Кавалаўскі, скарбнік — М. Навумовіч. Таксама выбрана Рэвізыйную Камісію і Сяброўскі Суд.

### 31-я ўгодкі акту 25-III у Парыжу.

Беларусы пражываючыя ў Парыжу перанесьлі сьвяткаваньне 31-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі на нядзелю 27-III. Гэтага дня рэктар Беларускае Місіі адслужыў у Сан Сюльпіс урачыстую Службу Божую за Беларускі Народ і сказаў прынагаднае слова аб Божым правідзе ў кіраваньні доляй народу і заклікаў да грамадзкае працы на Божую славу, якая можа прысьпешыць дзень ажыцьцяўленьня ідэалу 25-III.

Папалудні гэтага-ж дня ў салі Хрысьціянскага Сындыкату адбылася акадэмія, на якой між іншых прэзыдэнт М. Абрамчык зьвярнуўся да прысутных з вельмі глыбокай і зьмястоўнай прамовай аб значэньні і гістарычных шляхох акту 25 сакавіка.

На мастацкую частку акадэміі злажыліся дэклямацыі, салёвыя сьпевы В. Жаўняровіча і літаратурныя чытаньні А. Кавалаўскага. Закончылася ўрачыстасьць агульным адсьпяваньнем гымну.

### Гадавы Сход Аб'еднаньня Беларускіх Работнікаў у Франціі.

Папалудні дня 27-III у салі Хрысьціянскага Сындыкату адбыўся гадавы Сход Аб'еднаньня Беларускіх Хрысьціянскіх Работнікаў у Франціі. Адчыніў Сход гэнэральны сакратар інж. Л. Рыдлеўскі і ён-жа зрабіў кароткі агляд шматбаковае дзейнасьці гэтае арганізацыі за мінулы год. Наступна была прачытана справаздача Рэвізыйнае Камісіі, пасьля чаго дасюлешняй управе была прызнана абсалюторыя і выбрана новую ўправу ў склад якое ўвайшлі: гэнэральны сакратар — інж. Л. Рыдлеўскі, заступнік гэнэральнага сакратара — М. Лысуха, скорбнік — А. Монід, сябры ўправы — А. Татур і А. Шымчык. Перавыбрана так-жа Рэвізыйную Камісію і Сяброўскі Суд. У вольных прапановах намечана плян працы на бягучы год.

### НА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ».

У мінулым месяцы прыслалі: Я. Гараўскі — 1000 фр.; М. Калесьнікевіч — 350 фр.; Ю. Мурашко — 500 фр.; В. Спічонак — 100 фр.; Ф. Туміловіч — 400 фр.; А. Хмарук — 350 фр.; а. Ф. Чарняўскі — 500. фр.; Н. Кузьміна — 300 фр.; М. Санковіч — 200 фр.; Г. Юрчык — 400 фр.

Усім шчырае дзякуй.

Рэдакцыя.

### ПОШУКІ.

**Пракаповіча** Уладзімера нар. 1907 г., які апошнім часам пражываў каля Гамбургу, шукае жонка Яніна і сын Уладзімер.

**Бабіцкага** Антона нар. 1927 г. шукае маці Ганна.

Весткі слаць на адрэс Беларускага Харытасу: Weissruthenischer Charitasdienst. [20b], Goslar. Sommerwohlemstr, 1.A. Germany.

### ЗЬМЕСТ.



Gérant : D. Kucopej. Directeur : Abbé L. Horosco.

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières Paris.